# З Паховінаў Маёра Алеся Грыцука

Сумную вестку аб сьмерці маёра Грыцука, атрымалі Беларусы ў Дэтройце ад Др. Барыса Рагулі з Лёндану Онтарыё, ў нядзелю рана 30-га травеня, а пазьней ад Уладыкі Мікалая, які выказаў жаданьне, каб настаяцель Парафіі Сьв. Духа БАПЦ з Дэтройту, айцец Максім присутнічаў і прыняў удзел у паховінах.

Камандзер Беларускіх Вэтэранаў на Чужыне, гэн. Язэп Сажыц адразу заявіў, што паедзе ў Кінгстон на паховіны й прасіў другіх сяброў вэтэранаў і харыстых далучыцца да яго. І так, ужо ў панядзелак 31-га травеня, дэлегацыя Беларусаў з Дэтройту з айцом Максімам і харыстымі: сп-нямі Таняй Плескач, Варай Сажыц і сп-ром Янкам Бруцкім выбраліся ў Кінгстон каб аддаць апошнюю пашану й памаліцца супольна за душу заслужанага беларускага змагара, якога ўсе любілі й шанавалі.

Вечарам у капліцы „Рыд Фюнэрал Гоўм" сабралася многа мясцовых канадыйцаў, прыяцеляў і знаёмых нябожчыка, якія зь вялікім зацікаўленьням і жалобнай увагай прысутнічалі на доўгай і ўрачыстай Паніхідзе. Заслугоўваў на ўвугу цудоўны хор, дзякуючы дапамозе дэтройцкіх харыстых. Адчувалася, што паміма вялікага жалю, Уладыка Мікалай і рэгэнт Сп. Ганько былі паднятыя на духу, маючы нагоду так узьнёсла й шчыра памаліцца за нябожчыка й задэмэнстраваць перад канадыйцамі прыгожасьць беларускай праваслаўнай паніхіды ды зь якім гонарам адпраўляем на вечны супачынак заслужанага Беларуса.

А на паховіны ў аўторак 1-га чырвеня зьехалася ўжо вялікая колькасьць Беларусоў з Канады. Вялікая пахаронная капліца была перапоўненая. Ізноў паніхіда, а пазьней правод дамавіны пакрытай белчырвона-белым сьцягам на галоўныя могілкі ў Кінгстане, дзе нябожчык быў пахаваны.

Над магілай, кароткую разьвітальную прамову, сказаў старшыня Рады БНР Др. В. Жук Грышкевіч. Вэтэраны на „зважай" адсьпявалі: „Сьпі пад курганам герояў". Гэнэралы Б. Рагуля й Я. Сажыц зьнялі з дамавіны беларускі нацыянальны сьцяг і спавіўшы яго ўрачыста перадалі ўдаве сп-ні Олі Грыцук і дачцы Юльяне.

Вельмі глыбока й балюча даткнула прадчасная сьмерць Алеся Грыцука ня толькі сваіх найбліжэйшых, ягоную сямейку, але й сваіх сяброў, знаёмых ды ўсіх тых, хто ведаў нябожчыка.

Беларускія Вэтэраны жадаюць яму, каб Канадыйская зямелька была для яго пухам і лятуценьні яго „Аб Вольнай і Незалежнай Беларусі" споўніліся як найхутчэй.

Вэтэран

# ЗАКЛІК Кансысторыі БАПЦ

Кансысторыя Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы штогоду зварочваецца да ўсіх вернікаў Беларусаў у вольным сьвеце з просьбай ахвяр на патрэбы нашае Царквы, якія вымагаюць паважных і сталых выдаткаў.

З Ласкі Божае й ахвярнасьці нашых парафіянаў мы асягнулі пэўныя посьпехі ў разбудове нашае Царквы; і яны маглі-б быць лепшымі, каб усе суродзічы пачуваліся да нацыянальнага абавязку сталае дапамогі.

Царква-установа ў Імя Божае. Яна-найлепшая духовая лучнасьць між людзьмі, у любові й пашане адзін аднаго. Тымбалей важная гэтая лучнасьць для нас раскіданых па сьвеце. Для ўтрыманьня-ж Царквы вымагаецца й лучнасьць матарыяльная ў форме ўспамогі матарыяльнай.

Пара было-б уздабыцца на сталую сядзібу Мітраполіі, дзе была-б рэзыдэнцыя Мітрапаліта, Кансысторыя, і пры ёй царкоўныя дапаможныя ўладжаньні, як архіў, бібліятэка ды інш. А на ўсё гэта вымагаюцца сталыя й паважныя выдаткі.

У гэтай неабходнасьці Кансысторыя БАПЦарквы заклікае ўсіх вернікаў сваіх, каб кажны, і ўсе, у меру сваіх сіл, шчодрымі ахвярамі спрычыніліся да ўтрыманьня й разбудовы свае незалежнае Царквы.

Ахвяры просім прысылаць на адрас Кансысторыі ў ЗША, а на іншых кантынэнтах – на адрас Епархіяльнага Кіраўніцтва.

Кансысторыя БАПЦ

Byelorussian Autocephalic Orthodox
Church CONSISTORY
9 River Road
Highland Park, N. J. 08904



# Сустрэча Беларусаў Паўночнай Амэрыкі



*Група гасьцей, сяброў БАЗА й ЗБК на 12-й Сустрэчы Беларусаў у Гайлэнд Парк, Ню Джэрзі.*

Сустрэча Беларусаў Паўночнай Амэрыкі, якая адбылася ў Гайлэнд Парк, Ню Джэрзі, 4–6 верасьня сёлета, нягледзячы на добрае надвор'е, была малалюднай ды слаба зарганізаванай. Дзякуючы малой колькасьці людзей, прысутных сяброў БАЗА й гасьцей, зразумела, што ня мог вытварыцца цёплы сяброўскі клімат, як гэта бывала на папярэдніх сустрэчах.

Другім важным недахопам Сустрэчы гэта – вялікая прастаровая адлегласьць паміж Царквою БАПЦ ў Гайлэнд Парк і Каталіцкаю Царквою ў Самэрсэт. Частыя пераезды з аднаго мейсца ў другое, з Самэрсэт да Гайлэнд Парк і наадварот, не рабілі вялікай прыемнасьці для ўдзельнікаў Сустрэчы.

Трэба мець заўсёды на ўвеце, што Сустрэчы арганізуюцца й для сяброўскіх спатканьняў, для абмены думак паміж блізкімі сябрамі й знаёмымі, апрача афіцыйнай праграмовай часткі.

Варта зацеміць, што на сёляшняй Сустрэчы я вельмі хацеў забачыць свайго блізкага прыяцеля; дамовіліся што спаткаемся дзесь ў Гайлэнд Парк, але, на жаль, спаткацца нам не ўдалося: бо калі я быў у Каталіцкай Царкве, мой прыяцель быў ў Праваслаўнай, і наадварот ды гэтак у нас да „сустрэчы" й не дайшло.

У інтэрэсе нашых грамадзкіх арганізацыяў, вельмі пажадана ўзяць пад увагу недахопы сёлятняй сустрэчы.

– *Прысутны*

# ШТО ЧУВАЦЬ?

Ня пытай што чуваць, а пачытай „Месячнік", тагды даведаешся ўсе навіны з нашага жыцьця. Там пішуць: хто дзе й калі падарожнічаў, чый і дзе ладзілі юбілей, ды распішуць на цэлую бачынку, а то й болей; даведаешся хто жаніўся й колькі было прысутных ды чые адбыліся хрэсьбіны.

Далей будзе напісана пра маёўкі пікнікі, дажынкі, бліны, аладкі, запускі, розныя спатканьні, сустрэчы, разьвітаньні, праводзіны, ды, каб не забыцца, аб ігрышчах і скоках. На гэтыя імпрэзы не хапае й сьвяточных дзён, так што й выкарыстоўваюцца вечары працоўных дзён.

Вось гэтак выглядае змаганьне за вызваленьне нашае Бацькаўшчыны паняволенай чырвоным фашызмам.

„Двумесячнік" ідзе іншым шляхам: ягоным заданьнем ёсьць інфармаваць амэрыканскае грамадзтва ды іншыя краіны Свабоднага Сьвету аб нашых беларускіх праблемах.

На маю думку, гэта новы й вельмі вартасны часапіс. Моцна шкадую, што я пражыўшы ў ЗША палову свайго жыцьця, ня ведаю ангельскай мовы, але цешуся, што моладзь нашая, прачытаўшы гэты „Двумесячнік" шмат чаго даведаецца з сучаснага палітычнага, сацыяльна-грамадзкага й гаспадарчага жыцьця. Наагул „Двумесячнік" падае многа вестак з розных галінаў жыцьця ды кажа што дзе робіцца, што ня робіцца ды што маець быць яшчэ зроблена.

*Скобля*

## ПАЭМА Ў НЕКАЛЬКІХ СЛОВАХ

*Сучасьнікі! Астаткі бласлаўленьня!*
*(Даруйце за ахрышчанае для вас імя!)*
*Вам тады ня страшна было тленьня –*
*вам бласлаўленьня жадалася на чын.*

*І блаславілі вас вятрамі Айчынаў усялякіх.*
*У юнацкіх сэрцах ня было цярпеньня:*
*горды розум парывы вам цадзіў,*
*мінулыя пакуты падзьмухвалі гарэньня.*

*Усьлед вам уздыхалі старэнькія бацькі,*
*і плакалі нясьцішна, як заўсёды, мацеры. . .*
*Малолі жорны гісторыі усё!*
*І толькі вы, шчасьлівыя астаткі.*

*Дым пахавальны чадзіў з кадзільняў гістарычных.*
*Нядармо бацькі*
*усьлед вам уздыхалі.*
*Паходаў незабытных ім веяў подых дзікі –*
*ведалі яны, што вашыя спадзевы:*
*усядно, бы мроя, па вадзе хадзіць.*

*Але ня гэтым сэрца, сучасьнікі, пакутвае.*
*На сяброх змаганьня, што ляглі касьцямі,*
*як па дажджох грыбы, на іх „сыны народу"*
*нэгацыянскамі растуць правадырамі.*

*Сучасьнікі! Астаткі бласлаўленьня!*
*(Даруйце за ахрышчаная для вас імя!)*
*Вам калісьці нястрашна было тленьня –*
*вам бласлаўленьня жадалася на чын*
*каб славіць ім адвечную Айчыну.*
*Ды пад апонаю „айчынаў" усялякіх,*
*вас*
*на чын чужацкі блаславілі.*

Я. Юхнавец

## ВЯЧЭРНІ ПРОМЕНЬ СОНЦА ПАГАСАЎ

*Вячэрні промень сонца пагасаў.*
*Хаваўся мерна за гарамі.*
*Зьнікаў апошні сьцень зь зямлі*
*ў бронзавым сьвятле заходу.*
*І песьні ціхлі,*
*шорах моўк*
*у неабсяжнай цішыне.*

*І хутка змрок іржавы зьнік*
*у цемры ночы і дубраў,*
*і толькі ў небе жоўты месяц*
*між завулкаў зорных плыў.*

*І доўга моўкла жудзь начы,*
*ляжала між людзкіх трывог,*
*і ў ложку росным, у імшарах,*
*нараджала дзень другі.*

*І дзень настаў. Дзень нарадзіўся,*
*і цягнуўся колькі мог.*
*Але-ж. . .*
*ня вырашаў нічога*
*і гэты дзень.*

Я. Юхнавец

**РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ ДВУМОЎНАЙ ГАЗЭТЫ „ЧАС" ВЫКАЗВАЕ ШЧЫРУЮ ПАДЗЯКУ ЎСІМ ПАДПІСЧЫКАМ, АХВЯРАДАЎЦАМ І СУПРАЦОЎНІКАМ НАШАГА ЧАСАПІСУ**

# Меліяраваным Сыстэмам Надзейнасьць

Пад гэткім назовам П. Плаксіцкі, старшыня саўхозу *Глыбачаны*, Ушанскага раёна, ў часапісе *Камуніст Беларусі* за кастрычнік 1975-га г. зьмясьціў артыкул пад назовам „Меліярацыйным сыстэмам – надзейнасьць." У гэтым артыкуле П. Плаксіцкі расказаў вельмі цікавую гісторыю меліярацыі грунтаў на тэрыторыі ягонага саўхоза *Глыбачаны*. Характэрна, што на балонках савецкай прэсы ўсё часьцей і часьцей зьяўляюцца весткі аб ненадзейных „сыстэмах меліярацыйных." Поўны правал сельска-гаспадарчай тэхнікі дае ць права думаць, што й уся колектыўная сыстэма перажывае ць вельмі востры крызыс свайго існаваньня.

Толькі безнадзейнасьць паканаць труднасьці сельска-гаспадарчых меліярацыйных сыстэмаў змусіла аткрыта прызнацца, ды скінуць усю віну на недастаткова й памылкова апрацаваны меліярацыйны праект грунтаў.

Як-жа ў запраўднасьці быў выканаsuccessfully праект меліярацыі грунтаў на тэрыторыі саўхозу *„Глыбачаны."?*

Дырэктар саўхозу П. Плаксіцкі кажа, „што ў гэтым годзе на зьмеліяраваных грунтах вымакла 150 га. азімых сельска-распадарскіх культураў, у той час, калі на землях незьмеліяраваных страты былі ў два разы меньшыя."

Далей гаворыць: „Мы былі змушаныя наагул адмовіцца ад пасеваў й азімай пшаніцы на асушаных землях, бо вясною ўсёроўна прыходзіцца перасяваць."

Праект меліярацыі меў, як цьвердзіць дырэктар саўхозу *Глыбачаны*, цэлы шэраг недахопаў. Папершае, на абшары 1000 га цэлага аб'екту ня было зусем шлюзаў, дзякуючы гэтаму ў пэрыяд вэгетацыйнага пэрыяду, сельска-гаспадарчыя культуры цярпелі на недахоп вільгаці. Падругое, нармальны ўзровень вады ў аткрытых канавах быў вышэйшы, ад узроўня вады ў закрытых дрэнажных канаўках, дзякуючы гэтаму паўставаў падпор вады ў закрытых канаўках, а ад недахопу паветра карэньні расьлінак задыхаюцца й паміраюць.

М. Г.

# Тыдзень Паняволеных Народаў у Мэльбурне

Ад 18-га да 25-га ліпеня 1976 г. у Мельбурне, 12-ць нацыянальнасьцяў, ў тым ліку й Беларусы, урачыста адзначылі *Тыдзень Паневоленых Народаў.*

18-га ліпеня быў зладжаны вельмі ўдачны канцэрт з гэтае-ж нагоды, у каторым амаль усе нацыянальнасьці ўзялі чынны удзел.

22-га ліпеня ў Мэльбурнскім Унівэрсытэце адбыўся сэмінар на каторым рабілі даклады навукоўцы: не бракавала й слухачоў…

25-га ліпеня на заканчэньне *Тыдня Паневоленых Народаў* быў адслужаны супольны урачысты Малебен (Ecumenical Service) ў Сьв. Патрыка Катэдры – найбольшай ў Мэльбурне. Падчас Малебна, ў Катэдры, прадстаўнікі паасобных нацыянальнасьцяў, у тым ліку прадстаўнікі ад беларускага грамадзтва, трымалі дзяржаўныя сьцягі, ведама, апрануты у нацыянальных вопратках.

У малебне прыняла ўдзел вялікая колькасьць (16) духавенства ад розных нацыянальнасьцяў, улучна з Настаяцелям памеснай Парафвіі БАП Царквы Прат. Аляксандрам.

Падчас Малебна, духавенства ад кожнай нацыянальнасьці, па чарзе, чыталі малітву (Prayer of the Faithful) у роднай мове.

На заканчэньне Малебна, прысутныя ў катэдры, а было панад 2,000 асоб, атрымалі добраслоўленьне ад Лютаранскага, Праваслаўнага, Англіканскага і Каталіцкага духавенства. Ад Праваслаўнага духавенства добраслаўляў Мітр. Прат. Аляксандар, настаяцель БАПЦ у Мэльбурне.

### Малітва прачытаная ў Катэдры падчас супольнага Малебна

Усемагутны Божа, Ойча наш Нябесны! Мы дзеці Твае схіліўшы галовы прад Табою просім помачы Твае: Пашлі Тваю Боскую Ласку й апеку Народу Беларускаму. Абдары Сьвятым Тваім Духам, мудрасьцю й непахіснасьцю тых, хто зь вераю ў магутнасьць Тваю бароніць Бацькаўшчыну й Народ наш. Скараці час цярпеньня усіх падняволеных народаў. Усіх, аддаўшых жыцьцё сваё за веру і праўду упакой у Валадарстве Тваім.

Няхай цудоўнае імя Тваё, Божа й Спасе наш, пануе й зьзяе у сэрцах нашых і будзе добраслаўленае цяпер і навекі. Амін.

# ХОДЗІЦЬ ПА БЕЛАРУСІ РАГНЕДА

Ёсьць ў Беларусі невялічкае мястэчка Заслаўль. На першы пагляд яно нічым ня розьніцца ад іншых многакалькасных мястэчак краіны. Але гэта толькі на першы пагляд. Калі больш уважна запазнацца зь ім, то можам даведацца што рэчкі, якія тут плывуць павольна ў зарослых чаротам берагох называюцца Княгінка і Чэрніца, а раней нярaз крывёю умытае ваеннае умацаваньне паміж імі – Гарадышча Рагнеды. Вам скажуць, што на мейсцы вось гэтай былшай каменнай карчмы, амаль тысяча гадоў таму, знаходзіўся палац князя Ізяслава, а вот на мейсцы гэтай зьневажанай Спаскай царквы прыстасаванай бальшавікамі пад склад, існаваў жаночы манастыр, дзе ў 999м пад імям манахіні Чарніцы Анастасыі, закончыла сваё жыцьцё многапакутная княгіня Рагнеда.

На поўнач ад мястэчка вам пакажуць вялікую лагчыну каторую калісь, як чашу, да краёў напаўняло празрыстай крынічнай вадою занікшае пазьней возера Рагнедзь, а на поўдзень ад яго, па менскай дарозе –заросшую горкай палонкай магілу Рагнеды. І тагды успомніш, што ціхаму і сьціпламу цяпер Заслаўлю даў сваё імя князь Ізяслаў – сын Рагнеды і ўнук Рагвалода. Ненавіта ад яго пайшлі харобрыя полацкія Ізяславічы, аб каторых з павагай заўважыў летапісец: „Меч ізымают Рогволожы внукі". І тагды зусім набліжыцца да вас і загляне проста ў вочы старая гістарычная даль.

Сыны кіеўскага вялікага князя Сьвятаслава Харобрага – Яраполк і Уладзімір дабіваліся яе рукі. Калі Рагнеда даведалася, што матка Уладзіміра была нявольніцай, яна адказала сватом: „Не хачу разуті рабініча, а за Яраполка йду". Яна мела на увазе вясельны звычай таго часу, калі жонка адразу пасьля сьлюбу павінна разуць мужа, як адзнака пакорнасьці яму на ўсё жыцьцё. Магчыма Рагнеда хацела разуць любімага ёю Ярапoлка, а не Уладзіміра. Але ўсё здарылася іначай… Сьпярша Уладзімір з дапамогаю чужынцаў забівае свайго старэйшага брата Яраполка й занімае яго вялікакняжэскі пасад. Пасьля ён удаўся на поўнач, гдзе пасьля заўзятай бітвы нішчыць Полацак, забівае каменным молатам, як кажа паданьне, Рагвалода й яго сыноў, а Рагнеду змусіў стаца ягонай жонкай. Ён бязлітасна адбірае ад яе незалежнасьць бацькаўшчыны, бацьку, братоў, каханага, любоў, і дзявочы гонар. Нат пасьля даўжэйшага часу, ў Кіеве, не магла забыцца Рагнеда праз гэткія злачынства, вядомыя ў народзе пад назовам – крыўда Рагнеды. Не прымірыла яе з Уладзімірам народжаньне сына Ізяслава й другіх дзяцей.

Нарэшце Уладзімір ссылае яе разам з сынам у сяльцо Прэдславіно каля Кіева. Магчыма яму здавалася, што сэрца Рагнеды, пазбаўленай вялікакняжэскага двара і уласьцівай роскашы, акрыяе, растане. Аднак, калі Уладзімір вырашыў заглянуць ў Прадславіно, то Рагнеда выйшла на сустрач яму з мячом. Князь ухваціўся за свой меч каб зарубіць непакорную палачанку, але Ізяслаў таксама узяўся за меч ў абароне маткі. Зьдзіўлены учынкам васьмігадовага сына Уладзімір дараваў Рагнедзе, але выслаў яе разам з Ізяславам назад на Бацькаўшчыну, гдзе й паўстаў тагды горад Ізяслаў – цяперашняе мястэчка Заслаўль. Аднак і тут у далёкім ад Кіева Ізяславе, Уладзімір не пакінуў у спакоі Рагнелу.

# З Царкоўнага Жыцьця

У выдаваным у Жаневе на францускай мове бюлетэнь Канстантынопальскае Царквы „Епіскопіс" у нумары з 5 травеня г.г. паведамляе аб пасьпяховым ходзе перамоваў дэлегацыі Патрыярхіі, ачоленай Мітрапалітам Мілітонам, з Патрыярхамі: Александрыйскім, Антыяхійскім, Ерусалімскім, Маскоўскім і Грузінскім, як таксама з прадстаўнікамі Цэркваў Польскай і Чэхаславацкай. Дасягнута ўзгадненьне ў наступных пунктах:

а) Неабходнасьць скліканьня Сабору па магчымасьці скарэй.

б) Сабор павінен быць нядоўгатрывалым.

в) Ён павінен абмяркаваць самыя сьпешныя царкоўныя праблемы, датычачыя кліру й праваслаўных вернікаў.

г) Што ён павінен сканцэтравацца на дыялогу Праваслаўнае Царквы з іншымі хрысьціянскімі Цэрквамі, як таксама на адносінах з экумэнічным рухам, ды каб магла быць выпрацавана агульна-праваслаўная праграма ў адносінах да хрысьціянскага адзінства.

Паведамляецца, што Патрыяршая дэлегацыя ўсюды была радасна й з пашанаю спаткана, пры гэтым выказвалася задаваленьне з таго, што Сусьветны Патрыярхат прысьпяшае скліканьне Сабору й дае пяршынства важным справам сучаснасьці.

Як паведамляе бюлетэнь, пакульшто выявілася, што першая Усеправаслаўная Канфэрэнцыя адбудзецца ў цэнтры Шамбэзі (Швайцарыя) і што чакаецца на аднаголосныя пастановы аб парадку дня Сабору й ягонай працадуры, бяручы на ўвагу ўжо адбытыя усе праваслаўныя акрэсьляньні. Выказваецца задаваленьне з таго, што „можна сцвердзіць наяўнае адзінства праваслаўных у вонкавых нарадах і жаданьне Праваслаўных Цэркваў яшчэ раз выказаць гэтае адзінства, каб умацаваць і пасунуць справу хрысьціянскага адзінства якое ў сваю чаргу адаб'ецца на ўсім чалавецтве".

Чакаюцца яшчэ на нарады дэлегацыі ў Белградзе, Бухарэшце, Кіпры Грэцыі і Фінляндыі.

# Эканамічны Рэалізм Па Савецку

Афіцыяльная Савецкая прэса усьцяж сцьвердзіць, што жыцьцёвы стандарт савецкага чалавека, ёсьць значна вышэйшым ад стандарту жыцьця рабочага ў капіталістычных краінах, ды што гаспадарча-эканамічны стан усіх камуністычных краінаў знаходзіцца ў працэсе бязупыннага й „квітнеючага" ўзросту.

Як-жа ў запраўднасьці выглядае эканоміка ў СССР і ў Сатэлітных Краінах? У запраўднасьці, ў галіне эканомікі Саветам німа чым пахваліцца. Перадусім, на тэрыторыі ўсіх Саюзных Рэспублікаў недастаткова ў прадажы аснаўных прадуктаў аджыўленьня: хлеба, бульбы, мяса, масла, агародніны й іншых. Ад даўжэйшага часу блізу поўнасьцю зьнікла з прадажы мяса, масла, фрукты й многа іншых прадуктаў. Народ недаедае. Недастаткова ў прадажы рэчаў хатняга абыходу.

Нам добра ведама, што соцыялістычная гаспадарка на тэрыторыі СССР, ды на тэрыторыі ўсіх сатэлітных краінаў хварэе ад самага пачатку існаваньня, так званага „соцыялізму", на тую самую невылечальную хваробу: „Недахоп прдукцыі".

Сяньня Савецкі Блёк пераживае вялікі гаспадарчы крызыс, уключае вострую інфляцыю ды упадак эканомікі. Эканамічны крызыс вельмі часта спалучаецца з палітычнымі зьменамі.

Гэтак, напрыклад, ў Чэхаславакіі былі „зьнятыя" з работы двух заступнікаў Першага Міністра: Францішак Гамоўз і Ян Грэгор за невыкананьне пляну па здабыцьцю энэргіі. Міністар Агрыкультуры Богуслаў Вэцэра быў зьняты з працы за невыкананьне пляну ў харчавой індустрыі.

У Польшчы ўведзена картачная сыстэма на цукар, а мяса амаль зусім не прадаецца. У выніку інфляцыі паўсталі вялікія дэманстрацыі польскіх рабочых, ды зарганізаваныя выступленьні з рашучымі дамаганьнямі зніжкі цэнаў на прадукты.

Так сама як ў Польшчы, Чэхаславакіі й Вэнгрыі кансумцыя перавышае прадукцыю, а недахоп тавараў ёсьць верным спадарожнікам высокіх цэнаў, чорнага рынку, вострай інфляцыі й гаспадарча-эканамічнага крызысу.

Таму й ня дзіва, што гістарычны матэрыялізм Карла Маркса ў галіне соцыялістычнай эканомікі не апраўдаўся.

*Б. Новак*

# Беларус Сярод Выдатных Амэрыканцаў

Атрыманы кагадзе выданы том бібліяграфічнага даведніка *Выдатныя Амэрыканцы Двухсотгадовай Эры* (**Notable Americans of the Bicentennial Era**). Падрыхтаваў да друку й выдаў яго Амэрыканскі Біяграфічны Інстытут які зьяўляецца філіялам Аб'еднаньня Па Ахове Гістарычнага Мінулага Амэрыкі. Першы том прысьвечаны 38 Амэрыканскім прэзыдэнтам, дзеячам Амэрыканскай рэвалюцыі. Ён улучае ўсіх сяброў урадавага кабінэту, Вярхоўнага суда, губэрнатараў, сэнатараў і кангрэсмэнаў. Акрамя таго, туды улучаны найбольш выдатныя дзеячы амэрыканскай культуры, навукі й асьветы.

Для нас, беларусаў, асабліва важным зьяўляецца тое, што сярод імёнаў выдатных амэрыканцаў, адзначаных у сувязі з двухсотлетняй эрай Амэрыкі, знаходзіцца імя выдатнага беларуса, сусьветна ведамага навукоўца, пісьменьніка й асьветніка, прафэсара сучасных моваў і літаратуры, доктара Уладзімера Сядуры (Глыбіннага). На балонцы 714 першага тому выданьня *Выдатныя Амэрыканцы Двухсотгадовай Эры* зьмешчаны дадзеныя аб паходжаньні, асьвеце, прафэсыйнай дзейнасьці й мейсцы



*Др. Уладзімер Сядура*

жыхарства гэтага знанага беларуса. Гэта ўжо дванаццатае энцыкляпэдычнае выданьне ў Амэрыцы й Ангельшчыне, дзе адзначаюцца заслугі Доктара Уладзімера Сядуры перад навукай, культурай і асьветай Амэрыкі (пералік гэтых выданьняў чытач можа знайсьці ў нашай газэце №2 за сьнежань 1975 г. ў артыкуле на ангельскай мове '**Congratulations to Byelorussian Writer and Scholar of World Reputation**').

Ушанаваньне заслугаў і асягненьняў беларускага навукоўца ў галіне гуманістыкі на Амэрыканскім кантынэнце й на абшары Эўропы сьведчыць аб здольнасьці беларусаў узьняцца на сусьветны ўзровень і ўнесьці свой дар у сусьветную скарбніцу культуры й навукі. Некалі Уладзімер Жылка выказаў мару аб узыходжаньні Беларуса на мапу Эўропы. Максім Багдановіч прадбачыў неабходнасьць беларускага дару ў сусьветную культуру. Асягненьні Доктара Уладзімера Сядуры на сусьветным узроўні прыбліжаюць нас да зрэалізаваньня гэтых шляхотных мараў лепшых сыноў Беларусі.

---

Прыняўшы хрысьціянства ён праз спэцыяльных паслоў загадаў сваёй жонцы:

– Я цяпер хрысьціянін і павінен мець адну жонку, дык выбяры паміж маімі вяльможамі аднаго, каб выйсьці за яго замуж.

– Мой сын князь Ізяслаў ніколі ня будзе пасылкам вялікакняжэскага слугі – адказала яму Рагнеда.

Тагды на дапамогу вялікаму князю, каб аканчальна аформіць ягоны сьлюб з грэцкай князёўнай, прыйшло грэцкае духавенства. Больш як праўдападобна, Рагнеду гвалтам пастрыглі ў манашкі.

Паміраець Рагнеда праз 19 гадоў пасьля разбурэньня Полацка, Уладзімірам, а такім чынам, ня больш як ў саракагоднім узросьце. Невядома чым выклікана гэтая прадчасная сьмерць.

Праз год яшчэ больш прадчасна і загадкава, паміраe полацкі князь Ізяслаў. Пасьля, сын Ізяслава, князь Брачыслаў, які астаўся дзяцінём пасьля сьмерці бацькі, і сын Брачыслава – славуты Болеслаў „Чарадзей" адпомсьцяцца за крыўду Рагнеды.

І ўсё гэта адбылося ў Заслаўлі. Менавіта там жыла Рагнеда празваная Горіславай. Тут і яе магіла.

У Магілеўскім Гістарычным Музэі была таўстая папка, на якой значылася: „Матар'ялы Навуковай Экспэдыцыі Маскоўскага Імпэратарскага Унівэрсытэта па дасьледжваньню ў чырвені 1866 г. магілы княгіні Рагнеды ў мястэчку Заслаўлі менскага паветуй губэрні". Ужо пажаўцеўшая ад часу папера сьведчыла, што дасьледчыкі дакапаліся да цаглянага склепу ў якім знайшлі багата упрыгожаную дубовую дамавіну. У сярэдзіне дамавіна была абіта чырвоным матар'ялам, што характэрна для княжых паховін тагачасных, але скілету ў ёй ня было. Дамавіна была пустая. Дасьледчыкі ў сувязі з гэтым зрабілі некулькі розных прыпушчэньняў. Яны успомнілі, што ў Беларусі нагул многа ёсьць магілаў Рагнеды і дзеля гэтага не абавязкава гэтая магіла Рагнеды зьяўляецца яе запраўднай магілай. Іншыя уважалі, што калісь невядомыя зладзеі аграбілі дамавіну й выкінулі зь яе скілет. Але чаму зладзеі пасьля гэтага старанна забілі труну дзеравяннымі цьвікамі і йзноў замуравалі склеп. Трэція меркавалі, што паховіны Рагнеды былі сымвалічнымі, таму што яна памерла ўжо не княгіняй, а манашкай Анастазіяй й таму, магчыма, была пахавана па звычайнаму манашскаму уставу, на манастырскім могільніку. Але–ж гэткія умоўныя паховіны зусім не уласьцівы хрысьціянскім народам. І нарэшце заблудзіўшыся ў супярэчлівых доказах, дасьледчыкі залучылі к сваім матар'ялам запісь на беларускай мове: „Калі мы закончылі дасьледваньне – заўважылі яны – к нам неспадзевана падыйшоў 83-х годні мешчанін Язэп Кандыбайла і зь нястрыманай пагардай сказаў: – Нашы магілы й курганы раскопваеце? Сьвяты супакой мёртвых парушаеце? Але тут дарэмна шукаеце. Німа княгіні. Яна даўно ўжо праснулася й ходзіць па ўсяму нашаму краю. Гдзе чалавек церпіць, гдзе пакрыўджаныя людзі за праўду змагаюцца, там і Рагнеда. Сам сваімі вачыма яе бачыў. Усьмехаецеся? Ня верыце? Так паслухайце расказ старога Язэба Кандыбайлы. Гадоў шэсьцьдзесят таму, а магчыма з гакам, катаваў мяне тутэйшы пан Пржэзьдзіцкі. Згвалціў ён маю нявесту Альжбету й яна адразу с абрыва кінулася ўвір.

–І што-ж тагды дзіўнага, што я падпаліў у начы панскі дом. Некулькі дзён білі мяне панскія гайдукі, а потым скруцілі вяроўкамі рукі й ногі ды моцна зачыніўшы хату адыйшлі, каб раніцою ў Менск адвесьці ды здаць на ўсё жыцьцё ў салдаты – ў паўлаўскія грэнадзёры. Білі мяне гайдукі, але зубоў ня кранулі, таму што які-ж бяз зубоў жаўнер. Зубамі я перагрыз вяроўку на руках, а потым й ногі вызваліў. Білі мяне гайдукі, але сілы маладзецкай зь мяне ня выбілі, але-ж такі, разам з панам сваім адбілі ў мяне ўсякую ахвоту да жыцьця. Зрабіў я з тэй самай вяроўкі пятлю, ўсунуў ў яе галаву, ды выбіў з пад ног лаўку. Адразу паваліўся на падлогу. Аглянуўшыся, я угледзяў, што каля мяне стаяла ды з укорам глядзела высокая прыгожая жанчына з мячом. А вяроўка была быццам перарэзана. Прызнаюся, што я згубіў ізноў сьведамасьць, а калі ачнуўся, то жанчыны ўжо ня было каля мяне. Сілаю націснуў на дзьверы, выламаў іх ды вырушыў ў начы ў сьвет шырокі. Толькі пасьля трыццаці гадоў

# Пасланьне Беларускага Пімена

У Новасібірску, у бібліятэцы Сібірскага аддзяленьня Акадэміі навук СССР, захоўваецца рукапісная кніга, якая мае самае непасрэднае дачыненьне да Беларусі, да віцебскай зямлі. Гэта Евангельле, напісанае і пераплеценае ў горадзе Друцку.

Беларускіх рукапісаў, якія адносяцца да XI–XIV стагодзяў, наогул захавалася вельмі мала, бо ў старажытнасьці Беларусь найбольш часта падвяргалася іншаземным нашэсьцям, у час якіх былі зьнішчаны многія каштоўныя помнікі гісторыі і культуры. Не сталі выключэньнем дакумэнты, мастацкія творы, іншыя рукапісы.

Што гэта за кніга, якая знайшлася ў акадэмічнай бібліятэцы, якая яе гісторыя?

Адказ на гэта дае Выдатны савецкі вучоны, акадэмік Міхаіл Ціхаміраў, аўтар больш трохсот работ аб старажытнай і сярэднявяковай Русі.

У кнізе 180 пергаментных аркушаў, спісаных у два слупкі. Тэкст упрыгожваюць застаўка, зробленая ў самым пачатку, і ўзорныя загаловачныя літары, выкананыя чырвонымі лініямі, кінавар'ю. „Тэкст Евангельля, – піша М. Ціхаміраў, – пакуль што нікім не вывучан з лінгвістычнага пункту гледжаньня, хоць, несумненна, мае важнае значэньне для гісторыі беларускай мовы. Але галоўнае значэньне рукапісу нават не ў гэтым, а ў тых пасьляслоўях, якія зьмешчаны на яго апошнім аркушы."

На адным з такіх пасьляслоўяў варта спыніцца больш падрабязна, бо яно – самая каштоўная частка пасланьня, пакінутага нашчадкам яшчэ адным, вобразна кажучы, беларускім Піменам.

Пра што ж пісаў наш беларускі Пімен, сапраўднае імя якога, дарэчы, Васіль Міхайлавіч? Дзякуючы яго сказаньню, мы ўпершыню даведваемся аб новым, не вядомым з іншых крыніц факце пра тое, што саборная царква ў Друцку (у якой і захоўвалася названая кніга) пабудавана яшчэ ў 1001 годзе. Указаньне на гэту дату дае магчымасьць, папершае, устанавіць: хрысьціянства ў Беларусі ўсталявалася не пазьней як праз трынаццаць год пасьля так званага хрышчэньня Русі ў 988 годзе, якое мела station ўчае па тым часе значэньне, бо садзейнічала ўмацаваньню адзінства старажытнарускіх зямель, пашырэньню іх сувязей з Візантыяй і Заходняй Еўропай, распаўсюджваньню культуры. Значыць і Беларусь не заставалася ў баку ад гэтых працэсаў.

Па-другое, становіцца вядомым, што Друцк, які ўпамінаецца тут амаль на сто гадоў раней, чым у летапісу (1092 год), існаваў ужо ў X стагодзьдзі і з'яўляецца, такім чынам, адным з найстаражытных беларускіх гарадоў.

Па-трэцяе, запіс Друцкага Евангельля змяшчае звесткі пра гаспадарку аднаго з беларускіх князёў XIV стагддзя. Гэты запіс з'яўляецца, па сутнасьці, даравальнай граматай, згодна з якой друцкі князь аддаў царкве вёску Мураўнічы (напэўна, цяперашнія Мураўнічы, якія знаходзяцца ў некалькіх кілямэтрах ад Друцка).

Друцкае Евангельле з пасьляслоўямі з'яўляецца, безумоўна, помнікам беларускай культуры. Але гэтым не вычэрпваецца яго важнасьць. Як падкрэсьліў М. Ціхаміраў, яно „захавала на сваіх лістках каштоўныя гістарычныя звесткі, усё значэньне якіх для гісторыі Беларусі яшчэ цяжка ацаніць." Спачатку старажытны рукапіс належаў тутэйшай царкве, потым ім завалодаў віленскі гараджанін, затым – наўгародскі архіепіскап, аб чым гавораць іншыя пасьляслоўі, зробленыя ў кнізе. Пераходзячы з рук у рукі, блукаючы з горада ў горад, з царквы ў царкву, рукапіс трапіў, нарэшце, да акадэміка М. Ціхамірава, які і перадаў яго ў Сібірскае аддзяленьне АН СССР. Стаўшы здабыткам буйнейшага навуковага цэнтра, ён дапаможа раскрыць таямніцы старадаўнасьці.

*–Г. Каралёў*

---

вярнуўся йзноў у свой родны Заслаўль. І даўно ўжо сатлелі косьці пана Пржэзьдзіцкага й яго гайдукоў, а я яшчэ жыву ды заўсёды ў сваіх малітвах памінаю княгіню Рагнеду. Німа тут Гарыславы. Ходзіць яна па ўсяму нашаму гарамычнаму краю."

Так закончыў свой расказ Заслаўскі дзед Язэп Кандыбайла. Палажыўшы папку, у каторай была гэтая запісь, на яе папярэдняе мейсца, пачаў я успамінаць паданьня, створаныя беларускім народам аб сваёй княгіні.

Што разбудзіло Рагнеду? Ці ня бітва на Нямізе ў 1066г., гдзе ў крыві ўзаемнай самавызначаліся народы? Беларусы не успамінаюць аб гэтым. Аднак яны сьцьверджаюць што калі крывіцкія палкі Вітаўта пад Грунвальдам ў 1410м г. вырашылі перамогу над нямецкімі рыцарамі, паміж крывічамі зьявілася высокая прыгожая жанчына з мячом. Яна хадзіла па крываваму Дубровенскаму полю, закрывала вочы забітым і перавязвала раненых. Гэта была Рагнеда. Яе бачылі ў халодную, ясную раніцу 10 сакавіка 1864 г. калі ў Вільні йшоў к царскаму эшафоту цьвёрдай хадою Кастусь Каліноўскі, прыціскаючы, як усе паўстанцы, кулак правае рукі к таму мейсцу, гдзе білася вернае народу да канца сэрца. Гэта яна крыкнула тагды на Лукішскай плошчы катам:

– Знойдзе народ вяроўку на вашую шыю! А калі жандармы кінуліся ў натоўп, то знайшлі толькі сьведкаў, з якімі хвіліну таму, стаяла высокая прыгожая жанчына, а потым раптам зьнікла. Гэта была Рагнеда. Яе бачылі ў лістападзе 1917г. ў Менску, ў салі Усебеларускага Кангрэсу, калі яна пацалавала бел-чырвоны беларускі сьцяг. А пазьней ў лістападзе 1920 г. падчас Слуцкага Паўстаньня, калі блізка ад залітай крывёю паўстанцаў вёскі Лютавічы, ў руках сьмяротна-раненага жаўнера захістаўся сьцяг, з вышытымі крэсьцікамі надпісам: „Тым, каторыя першыя паўсталі й пайшлі паміраць, каб жыла Бацькаўшчына", яна падхваціла яго і панесла далей наперад. Гэта была Рагнеда.

Ее, апрача гэтых выпадкаў, яшчэ многа й многа разоў бачылі. Нязьлічоную колькасьць паданьняў стварыў народ аб сваёй Рагнедзе, і мне ня хопіць жыцьця каб іх перадаць. Абмялелі рэчкі Княгінька і Чарніца і высахла возера Рагнедзь. Парасла палонкай магіла Рагнеды. Але прыйдзе час, калі паўстануць разам зь іншымі паняволенымі бальшавікамі народамі беларусы ў рашучы бой са сваім лютым ворагам. А ў першых радох і сівых і маладых жаўнераў і зноў зьявіцца высокая й прыгожая жанчына з старадаўным й слаўным мячом – бязсьмяротная Рагнеда.

*Юры Стукаліч*

---

# ЗАКЛІК



Гэльсінскае Пагадненьне, „дэтант" і Дактрына Зонэнфэльда выклікалі, асабліва, цяжкое ўражаньне калі Прэзыдэнт Форд памылкова сказаў, падчас дэбатаў з Губэрнатарам Картарам, Кандыдатам ў Прэзыдэнты ад Дэмакратычнай Партыі, што Пальшча й Румынія не знаходзяцца пад кантролям Масквы.

Апошні час Прэзыдэнт Форд ужо выправіў сваю памылку ды сказаў, што Злучаныя Штаты Амэрыкі ніколі ня прызнаюць акупацыі ніякай краіны Саветамі. Прэзыдэнт Форд ужо ніколі не ўспамінае „дэтанта" ды публічна выказаўся супраць Дактрыны Зонэнфэльда. Засьцярогі, якія мы яшчэ маем да амэрыканскай замежнай палітыкі, ў адношаньні да акупаваных Масквою краін Усходняй Эўропы, ўключаючы Беларусь, каліcь незалежных, а цяпер паняволеных Савецкай Расеяй, застаюцца й надалей аснаўным пытаньнем барацьбы за іхнае вызваленьне.

Мы павінны памятаць, што толькі Рэспубліканская Партыя афіцыйна прызнае нас як палітычную сілу ў ЗША, а гэта сталася таму, што нашыя вызваленчыя ідэі найбольш зблiжаныя да вызваленчых ідэяў Рэспубліканскай Партыі, якая хоча бачыць усе паняволеныя народы вольнымі й незалежнымі.

Прэзыдэнт Форд ёсьць нашым прыяцелям і ведае добра нашыя патрэбы й пажаданьні.

Дзеля гэтага, падтрымлівайце Рэспубліканскую Партыю, галасуйце за рэспубліканскіх кандыдатаў ды галасуйце за ПРЭЗЫДЭНТА ФОРДА.

БЕЛАРУСКІЯ АМЭРЫКАНЦЫ ЗА ПРЭЗЫДЭНТА ФОРДА

# „ЗАМЕЖНАЯ БЕЛАРУСЬ "

*М. Харошка*

„З народам – за Народ, і ні зь якай дыктатурай супраць Народу." Гэткія моцныя словы зьмясьціў Прэзыдэнт Рады БНР Пётра Крэчэўскі ў сваёй прадмове да зборніка *ЗАМЕЖНАЯ БЕЛАРУСЬ* ( Кніга першая, Прага, 1926-га г. ).

Гэткі ультыматыўны кліч да народу за народную свабоду, супраць несвабоды, быў адначасна й Ягоным палітычным мотто аж да канца свайго жыцьця.

У скарочаньні гэта – цэлая праграма Пётры Крэчэўскага, праграма ягонай ідэі ды, нарэшце, – гэта праграма Беларускага Уставадаўчага Кангрэсу.

Іншымі славамі, выказаў Пётра Крэчэўскі свае вызваленьчыя ідэі ў сваёй прамове ў 1924-годзе ў Празе Чэскай, ў Беларускім Студэнскім Клюбе на шостыя ўгодкі Абвешчаньня Акту Беларускай Вольнай і Незалежнай Дэмакратычнай Рэспублікі. Ён казаў: „Нічога німа больш прыгожага ды больш велічнага, як нараджэньне новай ідэі, зьмест якое ёсьць вызваленьне ад палітычнай, гаспадарчай і духовай няволі свайго народу. У гісторыі Беларускага Народу гэткай вялікай ды прыгожай ідэяй ёсьць ідэя 25-га Сакавіка 1918-га году, – Акту Абвешчаньня Беларусі Вольнай і Незалежнай Дэмакратычнай Рэспублікі.

Акт 25-га Сакавіка – найпрыгажэйшая кветка, што узрасла на нашай зямлі, а кволыя лісточкі яе вечна будуць жывымі, бо народ палівае яе сьлязамі сваімі.

Акт 25-га Сакавіка ёсьць найвышэйшай рэальнасьцяй усяго Беларускага Народу. Імкненьне да Свабоды ніколі не старэе, ніколі ня траціць на сіле ды на сваёй прыцягаючай моцы."

*Замежная Беларусь* гэта – інтэгральная частка нашага народу, якая жывець вонкі акупаванай Беларусі.

*Замежная Беларусь* гэта – нашая эміграцыя, якая знайшла прытулак ў Амэрыцы, Эўропе й Аўстраліі, Беларуская эміграцыя сяньня, блізу ўсюды, ёсьць праўнымі грамадзянамі краінаў свайго пражыцьця, але маець духовую сувязь са сваёю старою Бацькаўшчынай, якую яны ўсе любяць ды лічаць за свой абавязак дапамагаць ды рабіць усё магчымае для яе вызваленьня. *Замежная Беларусь* гэта сымвал нашага змаганьня за свабоду.

Цэнтрам *Замежнай Беларусі* ў часе паміж Першай і Другой Сьвятовых Войнаў, была Прага Чэская. Ў Празе жыў апошнія гады свайго жыцьця Прэзыдэнт Рады БНР Пётра Крэчэўскі, Ягоны заступнік Васіль Захарка, ды месьціўся Беларускі Ўрад. У Чэскіх Унівэрсытэтах студыявала больш 200 беларускіх студэнтаў. Рэпрэзэнтацыя беларускай проблематыкі на вонкі была вельмі актыўнай, й добра зарганізаванай.

## БЕЛАРУСКІ АРХІЎ

### *БЕЛАРУСКІ ЗАГРАНІЧНЫ АРХІЎ У ПРАЗЕ*

„У Тасканскім старым палацы ў Празе, што знаходзіцца насупроць „Граду", сялібы прэзыдэнта рэспублікі, месьціцца Беларускі Заграпічны Архіў. Архіў існуе ад 1928 г., ініцыятарам ды першым кіраўніком быў праф. Мікалай Вяршынін (+1934), нэстар беларускай калёніі ў Празе. Архівам апякуецца Міністэрства Замежных Справаў Č.S.R. Рэспублікі. Па сьмерці праф. Вяршыніна кіраўніцтва архіву пераняў др. Тамаш Грыб. Мэта архіву – збор ды перахоўваньне рукапісных і друкаваных матарыялаў зь гісторыі беларускага вызвольна-адраджэнскага руху. Архіў мае 4 аддзелы. Найбагацейшы аддзел дакумэнтаў, якія ўжо мае 15,000 пазыцыяў. Там архіўныя



*Др. Тамаш Грыб*

матарыялы Ураду БНР, а таксама дыпляматычных місіяў ураду БНР, успаміны беларускіх дзеячоў, іхнія аўтобіяграфіі й ліставаньне, архівы беларускіх арганізацыяў, палітычных партыяў і г.д. Другі аддзел архіву – бібліятэка беларусаведы, шмат сьціплейшы дзеля сьціплага бюджэту Архіву. Трэці аддзел – пэрыядычныя выданьні: часапісы, газэты, аднаднёўкі, адозвы. У Архіве ёсьць камплеты 214–х беларускіх пэрыядычных выданьняў.

Чацьверты аддзел – бібліяграфічны, картатэка зь гісторыі й усіх галінаў беларусаведы. Яна мае каля 12,000 пазыцыяў. („Шлях моладзі", №3, 1938. Вільня, 20 студзеня 1938 г., б. 5–6)."

Праская эра – гэта эпоха незалежнай беларускай думкі. З чэскіх высокіх школаў выйшаў шэраг выдатных спэцыялістаў з розных галінаў веды, узгадаваных на глыбокіх прынцыпах заходня-эўропэйскай цывілізацыі.

Прага 1921–1938 г. гэта ёсьць і беларускі інтэлектуальны нуклеус на чужыне, значэньне якога для беларускай культуры ёсьць фактам бязпрэчным. А інтэлектуальныя сілы гэта – найважнейшыя ды найбольш дынамічныя сілы каждага народу.

---

Ніжэй, Рэдакцыя Газэты *Беларускі Час*, друкуе поўны тэкст ліста Сэнатара Баклы, які ён выслаў Дырэктару Інфармацы ЗША (USIA) Спадару Джыму Кэг, ў справе радыяперадачаў „Голасу Амэрыкі" ў Беларускай мове. Пры гэтым, варта зазначыць, што Сэнатар Баклы часткова выкарыстаў матар'ялы, зьмешчаныя на балонках газэты *Беларускі Час*.

Dear Mr. Keogh:

It has been brought to my attention that the Voice of America does not broadcast in Byelorussian to the USSR. In view of the fact that the Byelorussian SSR has a population of almost 10 million people making it one of the largest non-Russian nationalities in the Soviet Union, I find this situation disturbing.

I have been informed that Byelorussian-Americans who have inquired about this situation have been told that the "Byelorussian language is closest to Russian" and that "Byelorussian people understand Russian and can listen to the Russian programs." Byelorussian-Americans find this explanation unacceptable. According to the Byelorussian Times of July 1976 "the Byelorussian language is not even close to the language of its oppressors."

Many Byelorussians do understand Russian only because they, as all others in the Soviet Union, are subjected to the Russification programs of the Kremlin. This cultural genocide is a tragic episode in the history of mankind.

I have recently contacted your office with regard to the USIA tours into non-Russian republics and the lack of American guides with a working knowledge of the language of the local population. These two situations only strengthen the Soviet policy of destroying the cultural autonomy of the nations which they forcibly incorporated into the USSR. The free development of various cultures is a long held American value and we must not unwittingly become a party to the Soviet Russification programs.

People in the Soviet Union depend on the Voice of America for accurate information about the world. It is tragic that almost 10 million people are denied this information or are forced to cooperate with the Soviet policy of Russification in order to learn about the free world.

I, therefore, urge you to implement a Byelorussian Service in the USSR Division of the Voice of America. The Final Act of the Conference on Security and Cooperation in Europe quarantees the free flow of informa tion. This is an opportunity to help implement this ideal and to test the Soviet commitment to the Accords signed in Helsinki last year.

Sincerely, James L. Buckley

## AFTER ELECTIONS AND THE DEMISE OF DR. KISSINGER...

The well-publicized "Sonnenfeldt Doctrine" states: "It must be our (U.S.) policy to strive for an evolution that makes the relationship between the Eastern Europeans and the Soviet Union an organic one, .... so that they (the Soviet-East European relations) will not explode causing World War III." These were the words of Helmut Sonnenfeldt, counselor to the U.S. State Department and the right hand man of Henry Kissinger, speaking at a meeting of the U.S. ambassadors in London last December.

According to U.S. press reports, Sonnenfeldt's statement faithfully reflects Kissinger's own views on foreign policy and is generally consistent with the overall Kissinger-Sonnenfeldt view of the Soviet Union as an emerging "superpower". It was further reported that at the same London meeting, Kissinger argued that the U.S. efforts to foster "stability" in Europe meant keeping certain persons from participating in West European governments, while accepting Soviet hegemony over the Captive Nations of Eastern Europe.

In advocating an "organic relationship", Mr. Sonnenfeldt has resurected a colonial hypothesis that the world should be divided among the major powers, and that there should be a "natural delimination" into "spheres of influence", "spheres of interest" and "geopolitical zones". It seems that Mr. Sonnenfeldt and the followers of his doctrine have not drawn the necessary conclusions from the events prior to World War II when the policy of division and redivision of spheres of influence and domination was precisely one of the chief factors leading to war.

Detente, the Helsinki Agreement, and now the "Sonnenfeldt Doctrine", are three links of the same chain of events representing a policy of accomodation to Moscow which the U.S. has followed since Henry Kissinger's influence took over American foreign policy. Perhaps that will change with the demise of Dr. Kissinger at the end of the present administration, but the danger exists that the Kissinger-Sonnenfeldt policies have been accepted by the State Department bureaucracy, in which case we may witness a new and unprecedented era of appeasement in American foreign pilicy at the expense of the Captive Nations.

# У Сьвятле Хрыстовай Навукі

*Рэдакцыя газэты „Беларускі Час" атрымала ад Спадара Уладзімера Глыбіннага даўгі артыкул: „Мая карэспандэнцыя з чытачамі й крытыкамі". У першую чаргу Рэдакцыя публікуе на балонках свайго часапісу цікавы дыялёг Архіяпіскапа Васіля (Тамашчыка) з Уладзімерам Глыбінным, вядомым пісьменьнікам і літэратуразнаўцам.*

У пошуках духовага хлеба мне было асабліва радасна атрымаць Калядны і пазьней Вялікодны ліст ад нашага Архіяпіскапа, які знайшоў час падзяліцца сваімі каштоўнымі думкамі, што ўзьніклі пры чытаньні мае кнігі. Мяне вельмі ўзрушыла магчымасьць пачуць ацэну яе ў сьвятле Хрыстовай навукі с вуснаў найбольш аўтарытэтнага і адданага ёй знаўца. У лісьце ад 17 сьнежня 1964 году Архіепіскап Васіль пісаў мне:

„...Дарагі доктар! Я вельмі дзякую Вам за Вашую кнігу, якую Вы ветліва прыслалі для нашае сьв. Царквы. Я дакладна прачытаў усе Вашыя апавяданьні і дазваляю сабе падзяліцца з Вамі сваімі ўражаньнямі.

Памінаючы тое, што я там знайшоў некулькі словаў мала зразумелых для мяне, аднак, меў вялікую насалоду з мастацкага боку ды з глыбокіх псыхалягічных аналізаў дзеючых асобаў. Усё гэта гаворыць мне, што Вы запраўдны мастак слова, і само сабою напрошваюцца розныя пытаньні, галоўным зь якіх ёсьць: як прыемна было-б прачытаць такі Ваш раман! Раман на 250–300 бачын! Ваш псыхалягічны аналіз, Вашыя глыбокія пачуцьці, амаль што скульптурныя перажываньні, і вялікая любоў да прыроды, усё гэта не малыя фактары для раману, не гаворачы ўжо, ясна, пра Вашую эрудыцыю, якая ў Вас таксама шматбаковая.

Усё гэта я выказваю Вам зусім шчыра, ды з падзякаю. Нажаль, ёсьць у мяне адно „але" да Вас. Вы відаць мала рэлігійны чалавек. На гэта Вы можаце сказаць: выбачайце, я вельмі рэлігійны, ці-ж Вы ня бачыце, што я ўсюды шукаю Бога? Доктар, Бога шукаць ня трэба: Ён заўсёды блізка нас! Толькі Яго трэба бачыць, ды бачыць не як нейкую сілу бяз формы, а як найбольш за ўсё рэальную АСОБУ! І ЯГО ня толькі трэба бачыць, але й стала ў сваіх творах ПАКАЗВАЦЬ другім.

Праз усе Вашыя Апавяданьні ані разу я не знайшоў слова: Хрыстос. Як жа Вы можаце быць рэлігійным чалавекам, калі Вы ня бачыце *АСНОВАПАЛОЖНІКА* яе – Хрыста, Каторы быў тым Чалавекам, якім мы ўсе маем быць! І магчыма праз тысячу год людзі падымуцца на гэтыя ўзвышшы: стануцца такімі чалавекамі! Але, каб яны праз тысячу год змаглі стацца такімі, неабходна, каб ужо цяпер былі адзінкі, як закваска для такога Чалавека. А такою закваскаю могуць быць ня толькі духаўнікі, якіх, нажаль, амаль няма, але й у першую чаргу паэты й пісьменьнікі, бо яны маюць сілу ня толькі пачуцёвых, але й разумовых узьдзеяньняў.

Я ня ведаю, ці Вы дакладна пазналі творы й дух Спінозы, але з Вашых твораў на кожным кроку выглядае Спіноза. Спіноза, як ведама, вельмі любіў прыроду, і там стараўся знайсьці Бога: Бога, не як Асобу, а як Боскую сілу, якая ўсё ажыўляе, жыцьцё стварае й яго падтрымлівае, Адсюль ён і стварыў філязофскую плынь – ПАНТЭІЗМ. Пантэізм сам па сабе прыгожая гіпатэза, або лепш сказаць – паняцьце, аднак, гэта, ніякая рэлігія, бо рэлігія як і само слова кажа, гэта лучнасьць-сувязь з Богам, з Богам як АСОБАЮ, якая Духам Сваім Сьвятым, таксама Асобаю, усё ажыўляе, натхняе, цуды творыць, нас да вышняў Нябесных падымае, каб мы станавіліся ЧАЛАВЕКАМІ, падобнымі Хрысту. Хрыстос зусім рэальная гістарычная Асоба. Ён, будучы Богам, стаў Чалавекам каб мы маглі сваімі вачамі Бога бачыць, ды каб нас зрабіць багамі: супрацоўнікамі й творцамі, сынамі Божымі.

Вось, доктар, што значыць рэлігія. Пад уплывам уражаньняў з Вашых апавяданьняў, я напісаў артыкул: „А ты для чаго працуеш" у нашым *Голасе Царквы*. Спадзяюся, што Вы прачытаеце яго, і больш мяне зразумееце. Да Красы, Гармоніі й Дасканаласьці мы можам прыйсьці толькі праз Хрыста Бога, як Асобу, Каторая Сама ідэал Красы, Гармоніі й Дасканаласьці. Ніякая сіла, разумна дзеючая, ня можа быць нечым бяз формы, а толькі Асоба, тым болей Бог – Асоба.

Гэтая Асоба – Хрыстос першы раз прыйшла на зямлю, яна таксама прыйдзе й другі раз, каб ужо вечна панавала Краса, Любоў, Гармонія, Дасканаласьць. І шчасьлівы такі чалавек, які гэта ня толькі ведае, але й стараецца ўжо цяпер стацца гэтым Сьвятлом ад Сьвятла! Зь нявымоўнаю радасьцю тады такі выйдзе насустрач гэтаму Сьвятлу! А яшчэ большую радасьць будзе мець такі, калі ён мог зрабіць гэтым Сьвятлом многіх другіх. І калі-б Вы мяне належна зразумелі, і пачалі дзеяць у гэтым сэнсе, то творы Вашыя сталіся-б несьмяротнымі, а гэтым і агульналюдзкімі, бо гэта ня толькі тэма, але й аснова-мэта ўсяго чалавецтва. Сакрат навекі застанецца найбольш людзкім філязофам толькі таму, што ён розумам сваім знайшоў несьмяротную душу, і за гэта жыцьцё сваё аддаў! І гэтае пытаньне душы – аснова найбольшых пісьменьнікаў і паэтаў сьвету. Такіх патрабуе й наш Беларускі Народ. Найбольшым нашым паэтам, як такім, доўга будзе М. Багдановіч, бо ён быў блізкі да гэтага асноўнага пытаньня, як агульналюдзкага, і вялікая шкода, што нашыя паэты гэтага не разумеюць. Не разумеюць, бо ня бачаць Бога – Хрыста, ані навет не стараюцца пазнаць Яго.

Выбачайце, што столькі нагаварыў Вам, але нагаварыў таму, што Любоў – аснова асноваў, а ў Вас яна ёсьць, толькі трэба яе ўзмоцніць, падняць на ўзвышшы, дзе гэтая Любоў у дасканалай форме прабывае: да Неба, бо-ж Бог ёсьць Любоў. Ізноў блага мяне не зразумейце: Неба можа быць і на зямлі! У душы кожнага чалавека, розум якога стаўся МУДРАСЬЦЮ. Мудрасьць гэта ўжо праўленьне Бога ў нас.

*працяг на 1-й бачынцы*

## ПРАДСТАЎНІКІ „ЗАМЕЖНАЙ БЕЛАРУСІ"





*Сп. Уладзімер Бортнік і Сп. Праф. М. Нікан, добра ведамыя беларускаму грамадзтву, адведалі беларускія асяродкі ў ЗША й Канадзе*

# Women's Ministry

*continued from page 4*

'official' function, yet she undoubtedly remained at the center of the Church of the Apostles. This is very evident in Orthodox icons of the Ascension. In some churches, in the frescoes of the apse over the sanctuary, one sees, depicted in the bottom row, venerated teachers and bishops; then, higher up scenes of the Last Supper; and above them all – the Mother of God, stretching out her hands in prayer for the world.

Like the Mother of Jesus, other holy women surrounded and served our Lord. It was to them first that 'Rabboni' appeared after his resurrection and gave them the command to announce it to all the others; but Jesus Christ did not make them Apostles. It is wrong to see in this only a conformity to the social conditions of his time. If we believe that Jesus Christ is truly the incarnate Son of God, then the pattern which he ordered for his Church possesses an eternal validity.

The words, 'There is neither male nor female, for you are all one in Jesus Christ', are often used as an argument in favor of the priesthood for women. But this quotation should be taken in its context: in Galatians 3:27–28 St. Paul is talking about *baptism*, not about ordination. Both men and women are equally called to salvation, yet on earth neither womanhood nor manhood is cancelled in Christianity but is to be transfigured. This is abundantly shown in the lives of the holy women and of the Mother of God.

The Orthodox Church is reputed to be conservative and slow to change. Frustrating though this may seem at times, its wisdom is often evident in comparison with the experience of too-rapid changes in the Western Churches. The authorities of the Orthodox Church are unanimous in thinking that the ordination of women to the priesthood in the Western Churches will increase the obstacles to our reunion. We, the Orthodox, cannot judge those decisions taken in the West, but can only pray for God's guidance in this controversial step.

------

*) This article has been published in the *Eastern Churches Review*, A journal of Eastern Christendom, Vol.8, No.1, 1975. We are most grateful to the editor for the permission to reprint it here.

The author, Mrs. Militza Zernov, is a retired doctor (M.D.) and presently is a warden at the House of St. Gregory and St. Marcina in Oxford.

[1]) On deaconesses in the Christian East, see E. Theodorou, *I 'cheirotonia' i 'cheirothesia' ton diakonisson* (Athens 1954); also his article in *Thriskevtiki kai ithiki enkyklopaideia*, Vol.4 (Athens 1964), col.1144–51.

[2]) In the Byzantine rite, ordinations to the lesser orders – subdeacons, readers – take place outside the sanctuary, in the nave, and not during the course of the Divine Liturgy.

[3]) S.V. Troitskii, *Diakonissy v pravoslavnoi tserkvi* (St. Petersburg 1912) pp. 101, 107.

[4]) See Igumen'ia Ekaterina (Efimovskaia), *Diakonissy pervikh vekov khrystianstva* (Sergiev Posad 1909), pp. 12–14. Mother Ekaterina writes in this work that St. Gregory and St. Theosevia 'laid down conjugal duties in order to serve God better' when he was consecrated bishop, but she remained a thoughtful 'sister-wife' to him, never leaving him even in his exile and during all his trials, being a constant helper to him in his church work, while as deaconess she excelled in works of mercy.

[5]) For details, see S. Hackel in *ECR* (1967), pp. 264–6; also Troitskii, *op. cit.*, pp. 274–333.

[6]) The Orthodox tradition knows of examples of spiritual guidance given by men and women not in clerical orders. St. Anthony the Great (4th century), although a lay monk, became 'physician to all Egypt'; Symeon the Pious (10th century), spiritual father of St. Symeon the New Theologian, was also a lay monk. A number of women with spiritual insight and prophetic gifts were also known.

[7]) See life of St. Macrina by St. Gregory of Nyssa, translated by W. K. Lowther Clarke (London 1916); also Igumen'ia Ekaterina's study cited above. There is a notable dialogue between St. Macrina and her brother on 'The soul and the resurrection', about which Mother Ekaterina exclaims: 'What a vast intellect, what artistic feeling, what inner freedom in penetrating the most difficult theological questions, what a wide spiritual horizon combined with magnanimity of heart in this remarkable woman theologian.' Even more moving is the prayer on her deathbed that her brother records.

# GOLDEN AGE

*continued from page 6*

people and the Byelorussian state, the Grand Duchy of Litva. In the 16th century, this level of accomplishment could not even be approached by Moscow, Poland or any other state in Eastern Europe. This is also the record which Soviet Russia tries to camouflage and falsify, thereby attempting to deny the cultural inheritance and historical achievements of the Byelorussian people. In this connection the change of names from the historical Litva to Byelorussia and from the historical Zhamoyc (Samogitia) to Lithuania, contributes to the confusion which the Russians exploit. However, a heritage of this scope and an abundance of documentary evidence from the era of the *Golden Age* still in existence, can not be suppressed either by might or by fraud.